








**Мультфильмы про Кротика любят и взрослые, и дети. Теперь вы можете прочитать о приключениях нашего героя и его друзей в книжках из серии «Кротик для малышей». Знакомые персонажи, красочные иллюстрации и добрые истории понравятся каждому ребёнку.**



*Для чтения взрослыми детям*
Серия «Кротик для малышей»
**КРОТИК И ЛИСА**
Ответственный редактор *М. В. Крылова*
Технический редактор *А. Т. Добрынина*
Корректор *Л. А. Лазарева*
Вёрстка *Е. В. Семериковой*

ЗАО «РОСМЭН-ПРЕСС».
Почтовый адрес: 125124, Москва, а/я 62.
Тел.: (495) 933-71-30.
Юридический адрес: 129301,
Москва, ул. Бориса Галушкина, д. 23, стр. 1.

Подписано к печати 30.01.09.
Тираж 5000 экз. Заказ № 13523.

*Отпечатано в Китае.*

УДК 087.5
ББК 84.4 (Чеш.)
ISBN 978-5-353-04112-2






ЗДЗЭНК МІЛЭР • КАЦЯРЫНА МІЛЭР • ГАНА ДАСКАЧЫЛАВА

# КРАТОК
# і ліса





Далёка-далёка, у Казачным лесе, жывуць лепшыя сябры - Краток ды Сінічка. Хочаш даведацца, як яны пасябравалі? Гэтая цікавая гісторыя здарылася ўвесну...



Неяк ранкам Краток прачнуўся, таму што на нос яму нешта капнула.

-Што здарылася? - зьдзівіўся Краток.



*Ён выбраўся з нары і ўбачыў, што паўсюль распусьціліся першыя веснавыя кветкі.*
*-Ура, вясна прыйшла! - здагадаўся Краток.*



*Цёплае сонейка растапіла сьнег і прабудзіла лясных жыхароў ад доўгага зімовага сну. Краток так узрадаваўся, што пачаў скакаць па зялёнай траўцы!*



*Раптам ён пачуў, што ў лесе нехта плача. Краток заглянуў пад лісьцік і ўбачыў Сінічку.*

*-Чаму ты плачаш? - спытаўся Краток.*



*-Я вельмі хацела есьці, але ўбачыла Лісу і спужалася, - адказала Сінічка.*

*-Не пужайся! - супакоіў яе Краток. - Я ня дам цябе пакрыўдзіць і накармлю арэшкамі.*



-Дзякуй, Краток! - сказала Сінічка. - З табою мне ня страшна.
Сябры гуляліся і кушалі арэшкі, як раптам...



...з-за куста зьявілася вялікая Ліса!
-Дапамажыце! - закрычала Сінічка.
-Хадзі прэч! Не чапай Сінічку! - заступіўся за птушку Краток.



*Іх пачула Аса. Яна прыляцела да сяброў на дапамогу і ўкусіла Лісу ў самы нос!*



*Ліса спужалася і ўцякла.*
*-Цяпер ты будзеш ведаць, што нельга крыўдзіць маленькіх! - крыкнуў ёй усьлед Краток.*



-Дзякуй, Краток! - сказала Сінічка. - Ты такі сьмелы! Цяпер ты мой лепшы сябар. Я буду часта прылятаць да цябе ў госьці.



-Добрай дарогі, Сінічка! - закрычаў ёй усьлед Краток. - Я буду цябе чакаць!